# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 1 (1495) ГОД XXX БЕЛАСТОК 6 СТУДЗЕНЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.




Л. Тарасэвіч. Пейзаж, 1984. Фота Е. Бароўскага.

АЛЕНА АНШЭЎСКАЯ

## СМАК ЖЫЦЦЯ

На перонах у Бельску таўпіўся народ. Паветра было густое ад узнятага пылу, шматлікіх галасоў і таго асаблівага паху пераспелых фруктаў і падвялай ужо зелені, якое бывае толькі пад канец лета.

Амаль адначасова на станцыю падыходзяць тры цягнікі, што ідуць у розных напрамках. Стаяла ўжо два і вось між імі ўсунуўся трэці — з Беластока ў Чаромху. Натоўп закалыхаўся, людзі пачалі бегаць уздоўж вагонаў, шукаць месца. Перасядалі, пыталі, куды гэты, а куды той цягнік. Хто па-польску, хто па-беларуску...

Да гайнаўскага цягніка наблізілася грамада дзяўчат і юнакоў. Пачалі ўскакваць у вагон. Паадчынялі ўсе вокны, пераклікаліся з кімсьці на пероне. Шумелі, нібы рой пчол, тоўпіліся без выразнай патрэбы, вось так сабе, з радасці, прычынай якой была іхняя маладосць і беструрботнасць.

Прапусціўшы перад сабою пару старэйшых ужо людзей з кошыкам груш, увайшла я ў вагон.

Пасажыры з грушамі селі тут жа ля дзвярэй, а я стаяла і разглядалася, дзе тут прысесці. Ля акна сядзеў малады хлапец. Побач, злажыўшы рукі на жываце, накрыўшыся шапкаю на вочы, хроп нейкі мужчына. Я села насупраць людзей з кошыкам. Ад іх праменявала нейкая радасць, добразычлівасць і святочны настрой. Пашанцавала ім у жыцці — гэта было выпісана на іхніх тварах. Жанчына агледзела мяне крадком і спыталася:

— Вы тутэйшая?

— Тутэйшая, — кажу.

— Вяртаецеся ад сваякоў? — дапытвалася.

— Не, еду да сваіх, я сама жыву ўжо даўно ў горадзе.

Жанчына памаўчала, а пасля паківала галавой і кажа:

— Так, так, цяпер часта так бывае, што здалёк людзі едуць да сваіх, цягне да свайго. Чамусьці людзі распаўзліся па ўсёй краіне, дзе Варшава, дзе Гданьск, дзе Вроцлаў, а там столькі людзей нашых. А ўсе такія непаседы сталі, усе кудысьці едуць. Хто з патрэбы, а хто і без ніякай патрэбы.

— А вы з патрэбай, ці без патрэбы? — спытала я, жартуючы.

— З патрэбай, вяртаемся ад сваякоў, былі на Спаса, — адказаў мужчына, а яна падхапіла:

— Яны, нашы сваякі, прыедуць да нас на Прачысту.

Мужчына, падпіраючыся рукамі, загойдаўся неяк па-хлапцоўску і кажа:

— А чаму ж не ездзіць? Людзям жывецца добра, у кожнага ёсць грошы, ды яшчэ і білеты танныя, вось хаця б нам — каляярскія.

— Вы, значыць, калеяж?

Ён засмяяўся весела і кажа:

— Я ўжо на пенсіі. А калеяжам быў з малалецтва. За мною і мянушка такая — „калеяж".

— Ты зноў пачынаеш сваю казку? — адазвалася жонка. — Яна мне ўжо надакучыла!

— Соня, я ж не табе буду расказваць гэтую, як ты кажаш, казку, — усміхнуўся ён ветліва і палажыў ёй на калені вялізную, бы рыдлёўка, сваю руку.

— А чаму ў вас такая мянушка? — спытала я.

— Ой, гэта яшчэ перад вайною было, — пачаў мой субяседнік. — Жылі цяжка, асабліва сялянская моладзь. Марыў я

(Працяг на стар. 3)

НА МЯЖЫ

## Аб родным

І зноў прамінуў год. Прайшоў намнога хутчэй, чым хацелася. Так нядаўна быў яго пачатак і называлі мы яго новым, а ўжо стаўся старым і прамінуў беспаваротна. І сёння ў навагоднюю ноч ізноў задумоўваюся над мінулым. Вяртаюся да дзяцінства, да бацькоў, да вёскі, да роднага.

Лёс хацеў, каб нарадзіўся я на беластоцкай зямлі і каб пайшоў праз жыццё беларусам.

Беласточчына, ты і толькі ты наша незаменная вечная РАДЗІМА. І нідзе на свеце, дзе ўдалося мне пабываць, ні ў Францыі, ні ў Германіі, ні ў Амерыцы, ні ў Англіі, ні ў далёкай Сібіры не гарыць такім зялёным полымем маёвая зелень, не міргаюць так залётна зоркі, не шалеюць так салаўі, не ўміраюць у такой цудоўнай агоніі кастрычніцкія бярозавыя дубровы і пералескі.

Бог стварыў Беласточчыну тады, калі быў у вельмі добрым настроі, калі яго сэрца калыхала вялікая радасць. І таму ўсяго тут умеру, і таму ўсё тут: і рэчкі, і лясы, і зямля — так добра служаць чалавеку. Зямля гэта, наша карміцелька і змагарка, ад вякоў аказвае нам сваё адданне і сваю вернасць, на ёй сляды нашых бацькоў, дзядоў, прадзедаў і далёкіх прашчураў. І незалежна ад таго, хто і як стараўся пазбавіць іх найбольшага скарбу — вернасці сваім традыцыям і сваёй мове, яны аставаліся вернымі свайму род-

(Працяг на стар. 2)

**Нашым верным чытачам найлепшыя калядныя пажаданні! „Ніва"**

(Працяг са стар. 1)

# Аб родным

наму. На працягу тысячы гадоў трывала тут беларускасць. І ніколі ў нашых вёсках не гаварылі з нованароджанымі дзеткамі інакш, як па-свойму.

І надышла ўрэшце пасляваенная эра. Думаю, што няма на Беласточчыне ніводнай вёскі, ніводнай сям'і, ніводнага чалавека, які не палепшыў бы свайго жыцця, які б не павялічыў сваёй маёмасці. Тысячы беларусаў хлынула ў школы, універсітэты, установы, на фабрыкі і на будовы. Ніхто сёння не правярае тваёй метрыкі і не гаворыць, як гэта было перад вайной: нельга табе таго ці іншага, бо ты праваслаўны, бо ты беларус! Перад канстытуцыяй і правам мы зраўнаны з усімі грамадзянамі краіны. Здавалася б, што ў такой сітуацыі павінна заквітнець аднова беларускасці, што беларус павінен хадзіць па зямлі з высока ўзнятай галавой, што павінен адчуваць сябе сугаспадаром краіны і гаспадаром Беласточчыны.

А як яно ёсць у сапраўднасці? Ёсць у многіх выпадках наадварот. Невядома чаму беларус хавае галаву ў каўнер, каб не кідацца ў вочы, каб не адрозніваца, каб не заўважылі, што ён адменны і іншы, чым хтось з Пазнаншчыны ці Сандамершчыны. А як даказаць, што не іншы? Вельмі проста: увогуле перастаць умець гаварыць па-беларуску, гаварыць толькі па-польску. І вось таму ўсё часцей практычна ва ўсіх беларускіх вёсках на працягу апошніх пяці-сямі гадоў распаўзлася страшэнная мода спяваць над калыскай маленькага беларуса толькі па-польску, гаварыць з маленькім беларусам выключна па-польску, выхоўваць маладога беларуса па-польску. Аб гэтым якраз толькі марылі найбольш заядлыя абшарніцка-клерыкальныя паланізатары. Супраць гэтага якраз выступалі дэмакратычныя польскія сілы, імкнучыся да роўнасці, а не зняволення.

Няма сумнення, што прынамсі ў часткі тых беларускіх дзяцей, у якіх сёння іх родныя бацькі забіраюць найбольшы скарб — родную мову, у будучым прачнецца і адродзіцца нацыянальнае пачуццё, любоў да роднага. Яны самі навучацца таму, чаму не навучылі іх бацькі. Але тады ў бок гэтых бацькоў не кінуць хлебам, а кінуць каменем.

Яшчэ не позна, яшчэ ўсё ў вашых руках, беларусы! Дык апамятайцеся і адкіньце практыку, якая з вашых дзяцей робіць вашых ворагаў. Падумайце аб гэтым у навагоднюю ноч.

**Алесь Барскі**

З навагодняга гумару



Без слоў.

# З рэпарцёрскіх запісак

Быў гэта дваццаты конкурс па прыкладнаму вясковаму будаўніцтву **„Залатая веха“**, галоўным арганізатарам якога нязменна з'яўляецца **Ваяводскае ўпраўленне сельскагаспадарчымі інвестыцыямі.**

І не справа тут у трываласці ці ў юбілеі гэтага каштоўнага гаспадарчага пачыну. Дзеля адной толькі юбілейнай урачыстасці не варта было б вяртацца да гэтага конкурсу, вынікі якога былі аб'яўлены ўжо 30 кастрычніка 1984 года. Асноўнае значэнне конкурсу „Залатая веха“ зводзіцца да таго, што яго вынікі ў выглядзе канкрэтна існуючых прыкладных будынкаў **пастаянна садзейнічаюць карэннаму аднаўленню нашага вясковага будаўніцтва.** Ад драўлянасаламяных хлявоў без вокан і праездаў — да прасторных, поўнасцю механізаваных, светлых абораў і хлеўняў, аб якіх калісьці не марылі нават панымаешчыкі — гэта наяўны вынік паслядоўнай стымуліроўкі вясковага будаўніцтва, між іншым, і ў рамках конкурсу „Залатая веха“.

Селянін па сваёй натуры з'яўляецца чалавекам вельмі скептычным. Калі сам не пабачыць, калі да чагосьці не дакранецца ўласнымі рукамі, дык цяжка яму паверыць, што гэтак лепш, чымсьці было ў яго бацькі, ці ў суседа. Конкурс „Залатая веха“ якраз стварыў такія магчымасці.

Дзеля прыкладу, варта ведаць, што толькі ў 1984 годзе ўдзельнічала ў гэтым конкурсе 622 сялян. І так было амаль кожны год. Пажадалі яны паставіць на ацэнку аўтарытэтнай камісіі свае новыя або аднοўленыя і перабудаваныя аборы, хлявы і аўчарні, а таксама (на працягу пяці апошніх гадоў) жылыя дамы, бо Саюз сацыялістычнай польскай моладзі, далучыўшыся да арганізатараў конкурсу „Залатая веха“, пашырыў яго і на вясковае жыллёвае будаўніцтва, праводзячы сярод маладых гаспадароў агітацыю за ўдзел у конкурсе **„Дом маіх пажаданняў“.** У 1984 годзе „домам маіх пажаданняў“ аказаліся жылыя будынкі **Юркі Вільчэўскага** з **Белаусаў** у гміне Янаў і **Багдана Керсноўскага** з **Керснова** ў гміне Бранск. Хто цікавіцца, як яны выглядаюць, калі ласка, можна паехаць і паглядзець. Гэта не за межамі.

13 гаспадароў атрымала ўзнагароду за інвентарскія будынкі.

*

І так больш-менш было кожны год. Заўсёды ўзнагароды атрымоўвалі найбольш адважныя гаспадары, якія не пабаяліся парваць з адсталай ужо традыцыяй свайго асяроддзя і смела апярэджвалі сваіх суседзяў і аднавяскоўцаў, якія не пабаяліся паверыць вучоным-спецыялістам па вясковаму будаўніцтву.

# ЗАЛАТАЯ ВЕХА

Намеснік дырэктара Ваяводскага ўпраўлення сельскагаспадарчымі інвестыцыямі **Рышард Сергей** найбольш бадай заслужаны прапагандыст конкурсу „Залатая веха“, выступаючы з дакладам у час урачыстасці, прысвечанай 20-годдзю гэтага конкурсу, адзначыў, што ў пачатку, значыць, у шасцідзесятых гадах, даводзілася перш за ўсё заахвочваць сялян, каб звярталі ўвагу на ўласцівае абсталяванне будынкаў, прызначаных для гадоўлі кароў і свіней, на адпаведную таўшчыню вонкавых сцен, на планіроўку жывёльных стойлаў, абсталяванне складаў кармоў, механізацыю ачысткі ад гною і запраўку кармоў.

Цяпер, адзначыў Рышард Сергей, усе гэтыя элементы інвентарскага будаўніцтва настолькі ўжо прыжыліся, што ніхто інакш зараз не будуе ў вёсках на Беласточчыне. Калі яшчэ можна сустрэць тут традыцыйны хлеў з аднымі вузкімі дзвярыма, з глыбокай падсцілкай гною, які вясною і восенню даводзіцца вырываць уручную віламі, дык гэта спадчына першага пасляваеннага дваццацігоддзя. У рамках сучаснай механізаванай сельскай гаспадаркі, у вёсцы, дзе не хапае рук да працы, такія інвентарскія будынкі проста не ўмяшчаюцца.

Цяпер дарадчая служба па будаўніцтву засяроджвае сваю ўвагу на тым, каб гаспадару акрэсліць велічыню хлеўняў і абораў у залежнасці ад велічыні і аграэхнічнай структуры яго гаспадаркі.

Адным словам, наглядаем зараз зусім іншы, вышэйшы па якасці этап свядомасці сучасных гаспадароў. Яны ведаюць, што ў прымітыўных умовах нельга спадзявацца высокай прадукцыі малака і мяса, або воўны ці яек, а ў дамах без водаправодаў. цэнтральнага ацяплення і газу цяжка ўтрымаць на пастаяннае жыццё маладых энергічных людзей.

*

Удзельнікі і пераможцы конкурсу „Залатая веха“ і „Дом маіх пажаданняў“ знаходзяцца ў авангардзе носьбітаў прагрэсу ў жыцці нашай вёскі. Дзеля ілюстрацыі адзін прыклад. У час паездкі па вёсках, у аднаго з лаўрэатаў конкурсу „Залатая веха“ сяляне з вялікім зацікаўленнем глядзелі **круглую** абору. Хтосьці зажартаваў: *„Ну, гэта ж абора без кантаў“*. І сапраўды ніякіх „кантаў“ яна не мела. У час шматгадовых рэпарцёрскіх вандровак па Беласточчыне мне давялося ўбачыць ледзь два такія нетыповыя кароўнікі. **Ежы Жукоўскі** з вёскі **Панікла** ў гміне Дабжынева Касцельнае, уласнік гэтай круглай аборы. ахвотна ўсім усё пасняў, і не мог нахваліцца, гаворачы аб перавазе гэтага новага інвентарскага будаўніцтва над традыцыйным, абапертым на плане проставугольнікаў. Перш за ўсё круглая абора **шмат таннейшая** ў выкананні, чымсьці прамавугольная. У Жукоўскага кошт яе пабудовы ўмясціўся ў 1 мільён злотых. Можна ў ёй гадаваць 20

(Працяг на стар. 8)

# Вестьі з БССР

## НОВЫЯ КВАТЭРЫ ФАЗАНАЎ

Фазанавым стаў лясны масіў каля Гродна. Тут, на тэрыторыі Азёрскага лясніцтва, адкрыты запаведнік, куды дастаўлены з суседняй Літвы рэдкія ў нашых краях птушкі.

Навасёлы — а іх тысяча — размешчаны ў спецыяльных вальерах. Для харчавання фазанаў прыпасены ягады рабіны і абляпіхі — любімы ласунак. У рацыёнах таксама морква, сланечнік, авёс. Пасля акліматызацыі птушак расселяць у паляўнічых угоддзях, дзе ў большасці ліставыя лясы з ягаднікамі.

Фазанаў разводзіць і абласное таварыства паляўнічых і рыбаловаў. Вальеры для акліматызацыі і вырошчвання прамысловых птушак абсталяваны ў Соніцкай і Індурскай паляўнічых гаспадарках. Расселяць іх і ў іншых мясцінах, што дазволіць значна папоўніць паляўнічыя ўгоддзі. Карысць атрымаюць і земляробы: фазаны знішчаюць каларадскага жука і яго лічынку, харчуюцца насеннем пустазелля.



У народнай гаспадарцы Беларусі цяпер працуе 1194 тысячы спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй. Гэта амаль у 14 разоў больш, чым у 1940 годзе. На здымку новы корпус Беларускага політэхнічнага інстытута.

**У дапамогу настаўнікам беларускай мовы**

## ПРЫКЛАДНЫ КАНСПЕКТ УРОКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ТРЭЦІМ КЛАСЕ ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ

Тэма: Варшава — сталіца Польшчы.

Дыдактычная мэта: азнаёміць вучняў з развіццём Варшавы і яе найважнейшымі помнікамі.

Выхаваўчая мэта: паказаць вучням прыгажосць і веліч Варшавы.

Матэрыял да ўрока: герб Варшавы — сірэна, фатаграфіі або ілюстрацыі помнікаў Варшавы (большых памераў), паштоўкі аб Варшаве, альбомы аб Варшаве, фільм аб Варшаве.

1. Падаем кароценька гісторыю паўстання Варшавы паводле легенды.

— прыкладнае, прыгожае апавяданне настаўніка,

— паказ ілюстрацый з польскай кніжкі (Варшаўская легенда).

2. Завешваем герб Варшавы — сірэну на дошцы і пад гербам змяшчаем надпіс на паперы, вучні чытаюць гэты надпіс.

3. Падаем кароценька гісторыю развіцця Варшавы да II сусветнай вайны (ад часу, калі стала сталіцай).

4. Паказваем на ілюстрацыях з альбомаў знішчэнне Варшавы ў час II сусветнай вайны.

5. Паказваем помнікі Варшавы на ілюстрацыях ці на здымках, змяшчаем іх на дошцы разам з надпісамі.

6. Вучні аглядаюць ілюстрацыі і перапісваюць у сшыткі надпісы. Звяртаем увагу вучням на правапіс гэтых слоў.

Помнік Міцкевічу
Помнік Каперніку
Помнік Шапэну
Палац культуры і навукі
Бельведар
Лазенкі
Вілянаў
Каралеўскі замак
Палац Сташыца.

7. Даем вучням аглядаць паштоўкі і альбомы.

8. Паказваем фрагмент фільма аб Варшаве і патрабуем, каб вучні падалі яго назву.

9. Даем вучням падрыхтаваныя на картках паперы маленькія ілюстрацыі помнікаў і патрабуем, каб вучні распазналі іх і падпісалі. Гэтым самым праверым, як вучні засвоілі дадзены матэрыял.

10. Прагрываем з магнітафона верш Ю. Тувіма „Варшава".

11. Напамінаем польскія песні аб Варшаве.

12. Настаўнік чытае верш „Варшава" (У школе і дома, стар. 285).

13. Чытаем супольна верш „Варшава", звяртаючы ўвагу на знакі прыпынку і віды сказаў.

Дамашняе заданне. Навучыцца прыгожа чытаць верш „Варшава". Хто хоча, можа навучыцца на памяць першую строфку верша. Падрыхтаваць паштоўкі і ілюстрацыі аб Варшаве для насценнай газеты.

**мгр. Аляксандр Артэмовіч**

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць кнігі:

Мархель У. І., **Лірнік вясковы** (Сыракомля ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні), 1983, стар. 192, цана 40 зл. 50 гр.

Кніга пра Людвіка Кандратовіча (Уладзіслава Сыракомлю) і яго выдатную ролю ў станаўленні новай беларускай літаратуры. Аўтар паказвае беларускія вытокі творчасці паэта.

Кірылаў Г., **Падлетак,** 1983, стар. 157, цана 22 зл. 50 гр.

Зборнік апавяданняў, у якіх адлюстраваны падзеі з хлапечых успамінаў пра апошнюю вайну і аж да перажытага ў апошнім часе аўтарам.

Грачанікаў А., **Палессе,** 1983, стар. 125, цана 36 зл. Зборнік вершаў і паэма „Палескі трохкутнік", прысвечаныя роднаму і ўлюбёнаму паэтам Палессю.

Дуброўскі І., **Час сеяць і час жаць,** 1982, стар. 191, цана 15 зл.

Зборнік нарысаў пра людзей, якія ажыццяўляюць індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі ў Савецкай Беларусі.

Чурко Ю. М. **Белорусский балетный театр,** 1983, стар. 183, цана 156 зл.

Кніга доктара мастацтвазнаўства пра ўзнікненне, развіццё і сённяшні стан харэаграфічнага мастацтва ў Беларусі. Многа цікавых і рэдкіх здымкаў, малавядомыя факты.

**Ахоўныя жывёлы Беларусі,** 1983, стар. 116, цана 18 зл.

Кароткі энцыклапедычны даведнік (надрукаваны на шапірографе) пра рэдкія жывёлы, якія ахоўваюцца на Беларусі. Даведнік выпусціла выдавецтва „Беларуская Савецкая энцыклапедыя" як чарговую кніжку энцыклапедычнай бібліятэчкі „Беларусь".

Запатрабаванне накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki", ul. Kilińskiego 10, 15-085 Białystok.

(мг)

**Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р**

## А МОЛОДОСТЬ НЭ ВЭРНЭТЬТЕ...

(бяседная*)




Стоіт гора высокая, а пуд горэю гай —
зэлёны гай густюсенькі, як бытта спраўды рай,
зэлёны гай густюсенькі, як бытта спраўды рай.
А з-под горы высокоі вода, як скло, біежыт,
доліною шырокою кудысь вона біежыт,
доліною шырокою кудысь вона біежыт.
Там у затішку, пры бэрэжку прывэзаны чоўны,
там двіе вэрбы схілілосе і журатьте воны,
там двіе вэрбы схілілосе і журатьте воны.
Пройшло ўжэ любэ літэчко — повейлі холоды,
осыплетьте з нас лістечко і понэсэ вода,
осыплетьте з нас лістечко і понэсэ вода.
А я стою і думаю, што й вэрнэтьте вэсна,
а молодость нэ вэрнэтьте, нэ вэрнутьте ліета,
а молодость нэ вэрнэтьте, нэ вэрнутьте ліета.
Напэўно моя мілая забыла про мэнэ,
забыла і спокінула про біедного мэнэ,
забыла і спокінула про біедного мэнэ.

*Ад Уладзіміра Ваўранюка, 1923 года нараджэння, і яго сястры Ніны Ляўчук, 1935 года нараджэння, вёска Тыневічы Вялікія, запісаў 7 лістапада 1984 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.*

*) **Словы песні, несумненна, літаратурнага паходжання, але аўтар ні спевакам ні запісваючаму не невядомы.**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Бліжні друг лепей дальніх двух.
Братняя любоў крапчэй сцен каменных.
Дзе двое — там рада, дзе трэці — там здрада.
Дзе двух сварыцца, там трэці карыстаецца.
Добра на Доне, ды лепей у сваім доме.
Дораг той куток, дзе рэзалі пупок.
За правае дзела стой смела.
Не месца красіць чалавека, а чалавек месца.
Не чын чалавека павышае, а чалавек чын.

сталіца Гародня нямногім розніліся ад тагачаснай Драгічынскай зямлі і яе цэнтра Драгічына: магутны водны шлях па Нёману і яго прытоках з глыбінь дрыгавіцкіх і крывіцкіх земель у Балтыйскае мора, скрыжаванне рухлівых старадаўніх шляхоў з Заходняй ва Усходнюю Еўропу і далей у Сярэднюю Азію і з Балтыйскага на Чорнаморскае пабярэжжа. Асноўным насельніцтвам у Гародні і ў Гарадзенскай зямлі былі дрыгавічы, з усходу, з Полацкага княства, няспынна наплывалі сюды крывічы, з захаду, з-за Візны, прыбывалі мазаўшане і сяліліся пераважна ўздоўж ракі Бобры (Бебжы), з поўначы — яцвягі і літоўцы. Людзей прыцягвала перш за ўсё спакойнае жыццё, якое гарантавала магутная крэпасць у Гародні (нават яе назва паходзіць ад дрыгавіцкага „город" — умацаванне абароннымі сценамі паселішча, крэпасць) і мноства іншых умацаванняў, што ахоўвалі ўсю зямлю. Тут таксама неблагія глебы, шмат рознай сыравіны — балотнай руды, гліны, драўніны, каменю, спрыяльныя варункі для паляўніцтва, рыбнай лоўлі, бортніцтва. Усё гэта садзейнічала таму, што Гародня і яе наваколле хутка вырасла ў пругкі гаспадарчы рэгіён, які разам з усім Тураўскім княствам дабіваўся свабоднага выхаду па Нёману ў Балтыйскае мора, таксама як гэта ўдалося раней зрабіць Полацкаму княству на рацэ Дзвіне.

Мабыць, гэтыя намаганні часткова ўдалося здзейсніць, бо паход Уладзіміра Вялікага скарыў Яцвягію. Аднак ненадоўга, бо пры першым жа ўнутраным крызісе ў Старарускай дзяржаве і Тураўскім княстве (пасля смерці Уладзіміра Вялікага ў 1015 г.) яцвягі вызваліліся з гэтай залежнасці і зноў перакрылі Нёманскі шлях. І зрабілі гэта настолькі трывала, што як чытаем у летапісах, у 1038 г. „ходи князь великий Ярослав на ятвяги и не може их взяти". Відаць, паўночныя суседзі Тураўскага княства — яцвягі і літоўцы аб'ядналіся, бо праз два гады „Ярослав иде на Литву", а пад 1044 г. зноў знаходзім запіс „Ходи Ярослав на Литву". За гэтую справу спрабаваў узяцца яго праўнук — князь тураўскі і валынскі Яраслаў Святаполчыч і ў 1112-13 гадах двойчы „ходи на ятвязе" і перамог іх. Але з якім вынікам — невядома. Трэба ж мець на ўвазе, што ў XI-XII ст. ст. наступае хуткае развіццё, узмацненне і імкненне да ўз'яднання разрозненых яцвяжскіх і літоўскіх плямёнаў. І гэтыя „нёманскія паходы" закончыліся не на карысць Старарускай дзяржавы. Значыць, Тураўскае княства не здолела, так як Полацкае, замацаваць свой свабодны доступ да Балтыкі.

Гэта ў значнай меры запаволіла развіццё Гародні — яна не вырасла ў такую магутную сярэдневяковую метраполію, як Полацк. Але і не заглохла! Нават дагэтуляшнія надта ж невялікія, абмежаваныя, археалагічныя раскопкі паказваюць, што сярэдневяковая Гародня — гэта магутны вайсковы, рамесніцкі, гандлёвы і культурны цэнтр. Тут пастаянна знаходзілася значная колькасць вояў і крэпасць адбівала напады, падчас аднаго з іх (у X ст.) была цалкам знішчожана. Насельніцтва займалася рознымі рамёствамі: выплаўкай жалеза і вырабам з яго зброі і розных прылад працы, тут працавалі ювеліры, ганчары, кастарэзы і іншыя майстры. У Гародню прывозіліся разнастайныя вырабы не толькі з Турава, Полацка, Кіева і іншых гарадоў Старарускай дзяржавы, але таксама з Візантыі, краін Заходняй Еўропы, Сярэдняй Азіі. У Гародні быў такі самы, як у Драгічыне, міжнародны рачны порт, пра які сведчаць знойдзеныя тут падобныя да драгічынскіх пломбы. Заможнасць горада і яго жыхароў дазволіла развіваць манументальнае храмавае і свецкае будаўніцтва, якое ў пачатку XII ст. склала свой уласны гродзенскі архітэктурны стыль. Разам з Гародняй у выдатны вайсковы, гаспадарчы і культурны асяродак вырастае Ваўкавыск. Тут таксама ўзвышалася магутная крэпасць, якую ахоўвала

(Працяг на стар. 6)



Абора „без кантаў“ у Е. Жукоўскага з вёскі Панікла.




А гэтак распланавана абора без кантаў.



Станіслаў Дзеніс з вёскі Конты, гміна Моньні, абору якога бачым на гэтым здымку, таксама з'яўляецца лаўрэатам конкурсу „Залатая веха“. У падвале гэтай аборы абсталяваў ён яшчэ механічную сушылку для ўсялякага збожжа і бульбы.

(Працяг са стар. 2)

# ЗАЛАТАЯ ВЕХА

дойных кароў і яшчэ астаецца крыху месца для цялят. Гаспадар кажа, што на аднаразовую ачыстку гэтай аборы і запраўку кармоў для 20 штук кароў затрачваецца не больш паўгадзіны часу. Прычым расход энергіі на працу абсталявання для ачысткі гною і даення кароў таксама тут меншы, чым у прамавугольнай аборы. Круглая абора цяплейшая, бо яна менавіта не мае „кантаў“ і агульная паверхня яе сцен і даху намнога меншая ад будынкаў іншага тыпу, прытым гэтай самай умяшчальнасці жывёлы.

Праектантам гэтай аборы „без кантаў“ з'яўляецца інжынер **Чэслаў Кітляс з Інстытута будаўніцтва, механізацыі і электрыфікацыі вясковай гаспадаркі** (аддзел вясковага будаўніцтва) у Беластоку, які знаходзіцца на вуліцы Падэдворнага 14, дзе кожны гаспадар можа атрымаць гэтакі праект і практычную параду, як яго ажыццявіць ва ўмовах сваёй гаспадаркі.

Спадзяюся, што ўсё часцей будуць паяўляцца ў краявідзе нашых вёсак кароўнікі „без кантаў“. Першы ўласнік гэтакай аборы, **Тадэуш Дамброўскі,** з вёскі Пагажалкі ў гміне Дабжынева заваяваў прызнанне ў агульнакраёвым маштабе. Апрача яго яшчэ 8 іншых удзельнікаў конкурсу „Залатая веха“, жыхароў Беластоцкага ваяводства (у цяперашніх яго межах), вылучана да агульнакраёвых узнагарод.

*

Узнагароды як у ваяводскім, так і ў цэнтральным конкурсах „Залатая веха“, калі прыраўняць іх вышыню з размерамі капіталаў, неабходных для рэалізацыі задуманага будаўніцтва, маюць толькі **сімвалічнае** значэнне, але лаўрэаты конкурсу „Залатая веха“ гэтыя ўзнагароды высока цэняць. Яны з'яўляюцца выказнікамі іх рацыі, слушнасці нялёгкіх рашэнняў, скромнай узнагародай за аграмадны труд, які заўжды спадарожнічае кожнаму болей сур'ёзнаму пачыну па будаўніцтву. Хто не верыць, хай сам паспрабуе штосьці зараз пабудаваць! І таму адно сардэчнае слова спагады і ўдзячнасці гэтыя сяляне цэняць часта вышэй, чым 10-15 тысяч злотых узнагароды. Калі тады на нейкім будынку давядзецца ўбачыць зялёную таблічку з залатым надпісам **„Залатая веха“**, дык ведайце, што варта тут спыніцца і сардэчна прывітаць гаспадара ды папрасіць яго, каб расказаў вам, як ён змагаўся за гэтую г а н а р о в у ю адзнаку.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

(Працяг са стар. 4)

# Беластоцкае стоўпатварэнне

Р. Бутайла — палацы з ілюзіяў. Будуйце, удачы!

А фестывалі, за якія хадайнічае наш аўтар, таксама не новае. Яны ўжо і былі, і аб іх аднаўленні не раз была гаворка. Былі і адпаведныя пастановы.

Толькі ўсё гэта не раз плюнуць.

Алесь Барскі прыняў дрэнную тактыку, не адказвае сваім палемістам (маўляў, кожны мае права на сваю думку). Гэта добра, але сёй-той карыстаецца гэтым, лічыць на „бяскарнасць“ і з усіх бакоў скубе нашага публіцыста і старшыню. Так і заскубсці можна.

Алачка Сідаронак, якая даўно ад нас адбілася, і тая, пачуўшы пра БГКТ, надзімае губкі. Днямі, вярнуўшыся з чарговага Тур дэ Палён, сказала:

— Гэты ваш Барскі, хоць і знаёмы з Парыжамі ды Лонданамі, на еўрапейскую арбіту вас не выведзе. Малафарматнасць (як па Р. Бутайлу). Дробная хада (нешта лізнула з друку). Будзь я на яго месцы, пачала б ад дыск-вежы (прыкмеціла ў маіх вачах пытальнікі), значыць, ад танцавальнай ратунды ў цэнтры Беластока (ізноў бачыць, што я не ў курсе). Пабудаваць такую дыскатэку трэба, на 24 паверхі. На кожным свае атракцыі. І віткамі ўверх, уверх, на кожны крут гадзіну, за кожны віток грошыкі. А пры ўваходзе „сябар“ (хіхікнула) толькі падпісвае членскія білеты. Членам па зніжаных цэнах. Круглясутачны бум! Мільёны чырвоненькіх і зялёненькіх у адны суткі. Еўропа! Шык-мадэрн!

Забіла мне дух ад гэткага аптымізму і, каб Алачка не палічыла і мяне малафарматным, не стаў я дапытвацца, адкуль узяць сродкі на пабудову гіганта нашага дастатку.

Цяпер шкадую гэтага. Бо, сапраўды, меўшы такі грашовазборачны агрэгат, якімі смешнымі былі б нашы клопаты.

Пачакаем. Алачка ў дарозе.

**А. Сініч**

(Працяг са стар. 7)

# Цераз агонь

жыя фарміраванні, узнятыя з гарнізонаў у раёнах Драгічына на Палессі і Іванава, што ў 10 кіламетрах за гэтым жа Драгічынам, на шашы і чыгунцы з Брэста ў Пінск.

Першая варожая атака надосвітку з красавіка 1944 года абрушылася на партызанскую брыгаду імя Фелікса Дзяржынскага, у якой таксама знаходзілася шмат выхадцаў з Беласточчыны. Адначасова атакавалі партызанскі атрад № 345, якім камандаваў С. А. Яроцкі.

*„...Брыгада імя Дзяржынскага, выкарыстоўваючы выгадныя рубяжы абароны, а таксама ўжываючы манеўраныя баявыя групы, якія заходзілі ў тыл праціўніка, адважна білася з гітлераўцамі. К канцу дня ўсе атакі праціўніка былі адбіты. Ворагу нанесены цяжкія страты...“*

Так гэтыя падзеі ў Здзітаўска-Спораўскім міжазер'і апісвае тадышні сакратар Брэсцкага абкома і камандзір Брэсцкага партызанскага злучэння, герой Савецкага Саюза **Сяргей Іванавіч Сікорскі.**

На другі дзень, значыць, 4 красавіка 1944 года, гітлераўцы паўтарылі атаку сілай да трох батальёнаў пяхоты. На падтрымку пяхоце пайшлі танкі і самаходныя батарэі. Гарматы безупынку абстрэльвалі лес, дзе хаваліся партызаны.

Сяргей Сікорскі адзначае:

*„П'яныя галаварэзы са сляпой лютасцю палезлі на штурм абароны брыгады. На гэтым участку абаронай камандаваў начальнік штаба брыгады імя Дзяржынскага — Хведар Мікалаевіч Баранаў. Падпусціўшы п'яных фашыстаў на блізкую адлегласць, ён падаў каманду: „Па захопніках — агонь!“. Загаварылі кулямёты, аўтаматы і вінтоўкі партызан. Ланцуг наступаючага праціўніка прыкметна пачаў радзець, гітлераўскія ваякі хутка праціверазіліся і галахліва пабеглі назад. Так на працягу дня партызаны адбілі тры атакі фашыстаў...“*

Гітлераўскія атакі паўтараліся амаль безупынку. Ад самага вышэйшага камандавання атрымалі яны строгі загад: знішчыць партызан. Броненоснымі ўдарамі гітлераўцы намагаліся разбіць на часткі паасобныя брыгады, а затым адрозненыя атрады акружыць і пагалоўна ліквідаваць. Партызаны не дапусцілі да гэтага.

На трэці дзень боя, значыць, 6 красавіка, галоўны ўдар карнікаў накіраваўся на пазіцыі брыгады „Савецкая Беларусь“, якой камандаваў **Мікалай Бабкоў,** а камісарам быў **Масолаў.** Партызаны з гэтай брыгады прыкрывалі асноўныя базы ўсіх іншых партызанскіх брыгад і атрадаў цэнтральнай групы. Пад аховай партызан знаходзілася таксама 10 тысяч цывільнага насельніцтва.

Гітлераўцы маланкавым ударам найперш намагаліся захапіць пераправу цераз раку Драгабуш. Партызаны былі добра падрыхтаваны на прыём ворага. Яны загадзя пабудавалі акопы і траншэі ў поўны рост ды іншыя абаронныя ўмацаванні, у тым ліку і драўляныя доўгатэрміновыя абаронныя пункты, якія былі перакрыты ў шэсць накатаў драўляных броўнаў. Хвалявала партызан толькі адна бяда: адкуль узяць боепрыпасы? Адна надзея толькі на пастаўкі з „Вялікай Зямлі“. Але ці паспеюць, ці змогуць пад агнём ворага?

Сяргей Сікорскі ў сваіх успамінах адзначае:

*„Пасля інтэнсіўнай бамбардзіроўкі 18 самалётамі і трохгадзіннай артылерыйскай падрыхтоўкі з сямі батарэй, якія білі прамой наводкай па абароне брыгады „Савецкая Беларусь“, гітлераўцы пайшлі на штурм пераправы. Наперадзе ішоў штрафны батальён, які быў узброены выключна аўтаматамі і кулямётамі, а з тылу гнаў іх загараджальны атрад СС...“*

Немцы ішлі ў атаку ў поўны рост. Падпусцілі іх на 50 метраў. На працягу дня партызаны з брыгады „Савецкая Беларусь“ адбілі тры гэтакія шалёныя атакі праціўніка. Ён усё ж, аднак, намагаўся знішчыць партызан. Бой прадаўжаўся 17 дзён і начэй. Але аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

# ПЕСНЯ МАЯ

Словы Мікалая Варанецкага, настаўніка школы ў Нараўцы.
Музыка Васіля Целушэцкага, настаўніка школы ў Ляўкове.




Многа ёсць на свеце
ніў, калоссем спелых.
Не злічыць агнёў
у многіх гарадах.
Але даражэй нам
за усё на свеце
Наша беластоцкая зямля.

Многа дрэў высокіх
у зялёным лесе
з галавою ў небе
на вятрах шумяць.
Але прыгажэй нам
за усё на свеце
Наша белавежская сасна.

Многа песень звонкіх
чуецца ў раздоллі.
Іх несе на крыллях
кожная вясна.
Але чараўней мне
за усё на свеце
Песня беларуская мая.

## Пазнаёмімся

СССР, 344056, г. Ростов-на-Дону, пер. Беломорский, 20г, кв. 75. Алдаркиной Гульнаре. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 344080, Ростов-на-Дону, ул. Российская, 14а, кв. 69. Дзянковой Оле. Оля гадуе рыбак.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 5, кв. 123. Саркисовой Юлии. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, Ростовская обл., Белокалитвенский район, село Ильинка. Хабалёву Сергею. Хлопчык вучыцца ў пятым класе. Вельмі любіць лес, звяроў і наогул прыроду. Цікавіцца прыродай нашай краіны.

* * *

СССР, 344020, г. Ростов-на-Дону, ул. Лихачёва, 19. Костюхина Юлия. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

СССР, 344095, г. Ростов-на-Дону, ул. Штахановского, 21/2, кв. 34. Миронову Вите. Хлопчык хоча перапісвацца з дзяўчынкай.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Перова, 31, кв. 10. Молокановой Оксане. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* * *

СССР, Ростов-на-Дону-18, проспект Буденновский, 72, кв. 49. Радченко Ира. 11 год.

* * *

СССР, г. Ростов-на-Дону, ул. Испытательная, 13. Заскоченко Тане. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

## Пішуць школьнікі

### ПАВАЖАНАЯ „ЗОРКА"

Мы вучаніцы шостага класа пачатковай школы ў вёсцы Зубры. Беларускую мову вывучаем чацверты год. Перапісваемся з сяброўкамі з БССР.

Нашай настаўніцай з'яўляецца Зінаіда Зарэцкая. Яна развучвае з намі беларускія песні, вершы і пастаноўкі.

Цяпер мы звяртаемся да Цябе, „Зорка", з просьбай, каб як найхутчэй паявілася пастаноўка на навагоднюю ёлку. Будзем вельмі ўдзячны.

Пасылаем наш верш.

Наш клас, шосты клас
Вельмі любіць чытаць
„Ніву" і „Зорку" —
Часопіс ваш.
Просьбу мы вяліку маем:
„Зорка", „Зорка" дарагая!
Пастаноўку нам прышлі,
Будзем удзячны Табе мы.

З прывітаннем

**Івона Клімовіч і Эва Сэвэрын**

**АД РЭДАКЦЫІ: Маю надзею, што вы ўжо знайшлі ў „Зорцы" з паловы снежня патрэбную вам пастаноўку. Жадаю вам ўданага выступлення і вясёлай ёлкі.**

„Зорка"

## Паглыбляй свае веды

Я. Крамко

### КАРАГОД НА ПАЛЯНЦЫ

Рознакаляровым святлом зіхацяць гірлянды на ёлцы. Пад ёю ляжаць падарункі, падарункі ад дзеда Мароза.

— Дзеду! А што цяпер робіцца ў лесе? — гледзячы на ёлку, пытаецца ўнучка.

— У гэтую ноч у лесе таксама цікава, — адказваю я.

— А як там, раскажы...

— Вось наставіў доўгія вушкі заяц, прыглядаючыся, асцярожна вышаў з-пад густой яліны і накіраваўся на поле, каб знайсці пачастунак. Скокнуў пяцьшэсць крокаў, сеў, прыслухаўся, грызануў сухую сцяблінку, зноў скокнуў. Лісіца-непаседа яшчэ з вечара швэндаецца то на полі, то ў лесе, то зноў на полі, каб убачыць, калі мышка выскачыць з норкі. Цыбаты лось паважна ўзняўся са сваёй лежанкі і паволі пакрочыў у знаёмы сасновы маладняк, каб паесці маладых сакавітых вершалінак. Чародка казулек выбегла з густога хмызняку і накіравалася на лясную палянку...

Дзесь удалечыні час ад часу спрасонку заскрыпіць жаўна, а ў гняздзе ці ў дупле, накрыўшыся густым хвастом, адпачываюць вавёркі і куніцы, дрэмлюць дзятлы і сойкі, сарокі і цецярукі, крумкачы і рабчыкі, снегіры і канапелькі. Курапаткі, зашыўшыся ў снегавыя норы, таксама адпачываюць.

Як толькі пачнецца раніца, усе яны загамоняць і пачнуць святочную ўрачыстасць: закружыць над лесам чорнакрылы крумкач, каб паглядзець, ці далёка плывуць снегавыя хмары; застукае доктар-дзяцел на сасне; сойка і сарокі папярэдзяць лясных жыхароў, калі хто чужы з'явіцца ў іх уладаннях; вавёрка будзе ласавацца шышкамі. Групка цецерукоў сядзе на вяршаліне стромкай бярозкі; пабягуць па снежных сумётах увішныя курапаткі. Чырванагрудыя снегіры густа сядуць на адзінокай алешыне і зашчабечуць: няхай ідзе снег, няхай будзе мароз...

— Дзеду! Ты гэта ўсё сам бачыў? — заглядаючы ў вочы, пытае ўнучка.

— Бачыў, мілая ўнучка, бачыў. Было такое ў маім жыцці тады, калі я партызаніў. — Новы год мы сустракалі ў лесе...

## Вясёлы куточак

### СКУПЯНДА

У дзень свайго нараджэння Юля атрымала ў прадшколлі падарунак — карабок шакаладных цукерак. Калі прыйшла дадому, дык пачала частаваць цукеркамі маму, тату і бабулю з дзядулем.

Мама ўзяла толькі адну цукерку, разламала напалам. Адну палавіну паклала ў рот, а другую аддала тату і сказала:

— Дзякуй, дачушка, за цукерку. Ах, якая яна смачная.

— Вялікае дзякуй, табе, унучка, за пачастунак! Еш сама ўсе цукеркі на добрае здароўечка! — падзякавалі бабуля з дзядулем і не ўзялі ні адной цукеркі.

Тут тата і пытаецца ў Юлі.

— А чаму ж ты, дачка, не частуеш брата Сашу і сястру Наташу?

— А я знаю, што яны не адмовяцца ад цукерак, — адказала Юля.

Дзядуля сказаў на гэта:

— Ці чулі? Яна добра ведае, хто адмаўляецца ад пачастунку. Вось таго, значыць, наша Юля і частуе. А хто не адмаўляецца, таго абыходзіць.

— Скупянда кожнаму пачастунак абяцае, ды пачастунак з рук не выпускае, — дадаў тата.

І ўсе засмяяліся. А Юля адразу запунсавела, як вішня. Ёй было не смешна, а сорамна.

**Нічыпар Парукаў**

* * *

Едзе дзядзька возам, а насустрач яму кум.

— Што вязеш, куме?

Кум злез з возу, падыйшоў ды кажа:

— Авёс.

— А чаму ж ты так па сакрэту гаворыш?

— Каб кабыла не чула.

* * *

— Як табе, Мішка, не сорамна, — кажа маці да сына. — Настаўніца ўвесь час скардзіцца, што ты не ведаеш па гісторыі дат.

— Даты я якраз ведаю, — бароніцца Мішка. — Вось толькі не магу запамятаць, што тады адбывалася.

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Дапамажы птушачцы знайсці сцежку да зярнятак.

Мал. І. Цыбік-Лемеш.



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

